ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 48 (147) 22 - 28 сьнежня 1995 г. Кошт 600 рублёў



# СЬВЕТЛАГА РАСТВА І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!



## Узлюбленыя ў Хрысьце Пане - Браты і Сёстры!

Сьвяты Божага Нараджэньня належаць да сьвятаў, якія асабліва перажывае кожная хрысьціянская сям'я. Гэта сьвята поўнае радасьці і надзеі. Крыніцаю гэтай радасьці ёсьць праўда пра любоў Бога да людзей, якая аб'явілася ў тым, што Сын Божы - для нашага збаўленьня -стаў чалавекам, нарадзіўся ў Віфлееме, быў пакладзены ў жолаб, каб ніхто не сумняваўся ў тым, што для яго нарадзіўся Збавіцель, што чалавек, хоць бы і быў найубожайшы, хоць бы і быў найбольш нягодны і грэшны - Бог яго любіць, і што чалавек можа прыйсьці да жолаба і аддаць яму паклон - як тыя пастухі ў Віфлееме, ці Мудрацы з Далёкага Усходу.

Згодна з хрысьцінскім звычаем, у Вігілійны вечар ламаемся аплаткам. Ламаньне аплатка - гэта знак сяброўства, узаемнай любові і адзінства. Таму, калі мы ламаемся хлебам - аплаткам - мы прабачаем адзін другому крыўды, віну, выказваем нашу падзяку і добразычлівасьць, каб такім чынам падрыхтаваць нашы сэрцы на прыход Пана Езуса ў часе сьвятой імшы - ці апоўначы, у часе «Пастэркі», ці таксама на працягу дня.

Гэты белы хлеб паказвае нам другі Хлеб, якім зьяўляецца Найсьвяцейшая Гостыя - Эўхарыстыя. Пад постацьцю Хлеба - у часе сьвятой імшы - Езус Хрыстус дае нам сябе, адорвае нас сваёй любоўю, дае нам здольнасьць да праўдзівай і ахвярнай любові другога чалавека - у сям'і, у школе і працы.

Усім людзям добрай волі складаю з глыбіні сэрца пажаданьні: жадаю многа Божых ласкаў, здароўя, магчымасьці працы, узаемнага зразуменьня і зычлівасьці, любові і згоды ў сем'ях. Дарагім хворым і адзінокім -жадаю палёгкі ў цярпеньні, хуткага выздараўленьня, каб знайшліся зычлівыя людзі і пасьлашалі з добрым словам суцяшэньня і з дапамогаю.

Няхай нас усіх мае ў апецы Божае Дзіця і нам бласлаўляе, а таксама вядзе ў Новы 1996 год, які нам дае Пан Бог.

Ад сэрца Усіх Вас Бласлаўляю

**Аляксандр КАШКЕВІЧ,**
**Гарадзенскі Біскуп.**

## БІСКУП КАШКЕВІЧ АСЬВЯЦІЎ НОВЫЯ ПАМЯШКАНЬНІ «КАРЫТАС»

**Напярэдадні Нараджэньня Хрыстова, 19 сьнежня, біскуп і гарадзенскі ардынарый Аляксандар Кашкевіч асьвяціў пункт выдачы гуманітарнай дапамогі і аптэчны пункт «Карытас».**

Гэтая дабрачынная каталіцкая арганізацыя дзейнічае афіцыйна ў Горадні з сакавіка 1994 года, хоць практычная дабрачынная дзейнасьць распачалася значна раней. Толькі гуманітарнай дапамогі медычнага прызначэньня з 1990 па 1994 год было атрымана, і размеркавана на суму 6 мільёнаў 515 тысячаў нямецкіх марак. У першай палове гэтага года на адрас «Карытас» у Горадні прыйшлі дзевяць машын з гуманітарнай дапамогай з Нямеччыны, Францыі і Польшчы на суму каля 300 тысячаў дойчмарак.




За апошнія чатыры гады на лячэньне ў Нямеччыну было адпраўлена 240 дзяцей.

Адчувальную дапамогу з боку «Карытас» атрымалі гарадзенскае аддзяленьне Таварыства «Дзеці ў бядзе», Асацыяцыя «Вера» (аб'яднаўае дзяцей-інвалідаў), абласное аб'яднаньне «Дзіцячы дыябет», шматдзетныя сем'і, дамы-інтарнаты ў Васілішках, Навагрудку, Дамы Дзіцяці ў Любчы, Горадні. Сьпіс гэтых установаў і арганізацый мог бы заняць добрую палову газетнай старонкі.

Летам гэтага года «Карытас» у Горадні адчыніла філію ў мястэчку Гудагай на Астравеччыне.

19 сьнежня ўбачыў сьвет і першы нумар квартальніка «Misericordia» («Міласэрнасьць»), які выдаецца на польскай і расейскай мовах. Хочацца спадзявацца, што і беларускае слова ў хуткім часе знойдзе сваё месца на старонках выданьня. Нават з таго пункту гледжаньня, што колькасьць Беларусаў на Гарадзеншчыне ў шмат разоў перавышае колькасьць расейцаў. А пакуль ад імя рэдакцыі «Пагоні» зычым ксяндзу дырэктару «Карытас» у Горадні Антону Дземанку, усім яго супрацоўнікам вясёлых сьвятаў, моцнага здароўя і плёну ў пачэснай дабрачыннай справе.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ТАЯМНІЦА НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА

**Прывабнае гэта пачуцьцё - таямніца. Яно нібы прываражвае нас сваім подыхам, які мы так абвострана адчуваем і ад якога ня можам перавесьці дух, імкнемся зарузмець яго розумам і ня здольны спазнаць яго.**



У сьвеце шмат патаемнага, але таямніцай з таямніц застаецца для нас цуд жыцьця. І асабліва яго пачатак, які інакш чым Дарам Божым цяжка назваць. Можа таму мы так узрушана ўспрымаем нараджэньне новага чалавека. Можа таму і Госпад Бог, каб стаць больш зразумелым і блізкім да нас, увасобіўся праз Сьв. Дзеву Марыю ў Дзіцятцы Ісусе.

Такому настрою спрыяе надыходзячы час - час Раства Хрыстова. Ва ўсе часы ён натхняў на духоўнае ачышчэньне, а творцаў - на стварэньне помнікаў мастацтва. Сьвятое сямейства і яслі, Віфліемская зорка і Слава Нябесных Сілаў, пакланеньне Дзіцятцы-Збаўцы пастухоў і магаў -усё гэта не звычайны аповяд, а сімвалы і Божы наказ людзям, каб жылі паміж сабой у згодзе і суладдзі, каб не разменьваліся на дробязі, а думалі аб вечным.

Такія менавіта думкі ўзьнікаюць ад назіраньня евангельскіх сцэн, што адлюстраваліся на старых гравюрах XVII - XIX ст., выкананых па вядомых творах майстроў італьянскага Адраджэньня і барока. Сцэны гэтыя спакойныя ў сваёй велічнасьці, на іх няма экзальтаванасьці. Яны даюць прыклад сямейных адносінаў - пашаны да бацькоў, увагі да бліжняга, дабрыні і ўзаемападтрымкі. Яны як бы падказваюць нам: будзе суладдзе ў сям'і - будзе мір і згода ў грамадзтве.

Пагадзіцца з гэтым ці зрабіць высновы з асабістага вопыту - справа кожнага, каму пашчасьціць наведаць новую выставу ў гарадзенскім музеі гісторыі рэлігіі. Афармленая мастаком Уладзімірам Фаменкам, яна сьпецыяльна прысьвечана і прымеркавана да сьвята Раства Хрыстова, якое кожны год 25 сьнежня адзначаюць усе хрысьціяне сьвету. Гэта адно з самых сьветлых хрысьціянскіх сьвятаў, якое сімвалізуе нараджэньне Збаўцы, які сваім зьяўненьнем азарыў тых, што знаходзіліся ў цемры няведаньня, умацаваў слабых і сумняваючыхся, явіўся людзям, каб дапамагчы ім на шляху спакусы. Але цуд гэты - не дзеля зьдзіўленьня яўлены нам, а дзеля ўдасканаленьня, каб у сэрцы нашым і думках на працягу ўсяго жыцьця нараджалася Слова Божае. І тады ўжо ня толькі мы атрымліваем Ласку Божую, але і самі аддаем Богу веру сваё і справы добрыя, мір і згоду, надзею і любоў да айчыны.

Хвала ў вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі!

**Ігар ГАНЧАРУК,**
**вядучы навуковы супрацоўнік музея гісторыі рэлігіі.**

## Дарагія браты і сёстры ў Хрысьце, людзі добрай волі!

Сардэчна вітаю вас з найвялікшым Сьвятам Раства Хрыстова і шчыра жадаю правесьці яго з карысьцю для душы і цела.

Раство Хрыста - лёсаносная дата ў гісторыі чалавецтва. Праклён і сьмерць уладарылі над людзьмі да прышэсьця ў сьвет сына Божага. Па сьведчаньнях сучасьнікаў перад зьяўленьнем у сьвет Хрыста, панавалі паўсюль зайздрасьць, сквапнасьць, ганарлівасьць, мана, ашуканства, распуста, нянавісьць да бліжняга і адчай уласнымі сіламі выбавіцца ад розгнага кшталту зла. Жыцьцё здавалася невыносным. І тады лепшыя людзі знайшлі выйсьце з маральнага тупіка, зразумеўшы, што толькі Бог можа ўратаваць чалавека, калі сыйдзе з неба на зямлю.

Раство Хрыста і зьявілася той надзеяй, што прынесла спакутаванаму чалавецтву душэўнае разьняволеньне ад зла, дзякуючы выбаўленчай ахвяры Хрыста і яго позве да пакаяньня за грахоўнае жыцьцё. Абноўленыя ўведамленьнем выбаўленьня, катарсісам і малітвай, людзі здабылі сілы да маральнага адраджэньня, а значыць і да паляпшэньня зносінаў між людзьмі.

Зараз мы зноў перажываем цяжкія часіны і адна з галоўных прычынаў таго - страта многімі веры ў Бога, і як следства - духоўны крызіс, занепад грамадзтва. Хрыста выгналі з дзяржаўных установаў. Адказныя рашэньні прымаюцца без малітвы і веры: Многія ахрышчаныя не зьяўляюцца практыкуючымі хрысьціянамі і жывуць, як няверуючыя.

Ня трэба забывацца, што ўсе няўдачы нашага жыцьця - гэта яго крытыка за адыход ад усталяваных Богам законаў.

Яшчэ раз віншую са Сьвятам Раства Хрыстова і для ўсіх людзей добрай волі прашу Божага бласлаўленьня.

**айцец Віктар ДАНІЛАЎ,**
**настаяцель грэка-каталіцкай суполкі ў Горадні.**

## НА КАЛЯДКІ - У МУЗЕЙ!

**Калі набліжаецца якое-небудзь вялікае хрысьціянскае сьвята, а вы ня ведаеце, як яго лепш адзначыць, куды схадзіць у госьці - не сумуйце! Сьмела накіроўвайце свой шлях у музей гісторыі рэлігіі, дзе сьвяткаваньні Вялікадня, Дзядоў ці Божага нараджэньня сталі ўжо сапраўды добрай традыцыяй.**

Ня сталі выключэньнем і сёлетнія Каляды.

Ужо сёньня, а 15-й гадзіне дзьверы музея гасьцінна расчыняцца для дзяцей, якіх чакае казачнае спатканьне з героямі «Батлейкі» са славутага Міра ды вясёлыя сьпевы ды скокі вядомых «Дударыкаў» Яўгена Петрашэвіча.

А заўтра, а 17-й гадзіне, гольцы музея змогуць убачыць «Калядны шчодры вечар» у выкананьні артыстаў Жыдамлянскага дома культуры (кіраўнік Тэрэза Адамовіч), мірскую «Батлейку» (мастацкі кіраўнік Галіна Жаровіна) ды калядную праграму «Гэй, Каляда, Каляддзіца!» вучылішча мастацтваў (рэжысёр Аліна Буйко).

Вясёлых сьвятаў!

**Вітаўт РУДНІК.**

## ЗАПРАШАЮЦЦА ЎДЗЕЛЬНІКІ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

Фонд і хор «Бацькаўшчына», Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, Гарадзенскі клуб «Паходня» арганізуюць сьвяткаваньне традыцыйных Каляд!

Сьвяткаваньне адбудзецца ў ЛЯЛЕЧНЫМ ТЭАТРЫ 25 СЬНЕЖНЯ, пачатак а 13-й гадзіне.

Запрашаюцца ўсе, хто хоць чым-небудзь далучыўся да беларускага адраджэньня. Просім прыходзіць сем'ямі. Пажадана падрыхтаваць байку, верш ці сцэнку. Настрой урачысты. Буфет забясьпечвае кафэ «Батлейка».





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ТОЙ, ХТО НЯ ЎМЕЕ ПРАЙГРАВАЦЬ - НІКОЛІ НЯ ВЫЙГРАЕ!

**16 сьнежня 1995 года ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Гэта быў першы Сойм пасьля паўторных выбараў. Ён падвёў вынікі перадвыбарчай барацьбы і саміх выбараў. У Вярхоўны Савет новага скліканьня ня трапіў ніводзін прадстаўнік БНФ. Старшыня БНФ Зянон Пазьняк зьвязаў гэта акрамя іншых прычын і з абсурднасьцю нашай выбарчай сістэмы. Зараз Фронт у шэрагу рэгіёнаў набірае да 40% галасоў, але пры такой выбарчай сістэме ён можа набіраць і 49,9% і не правесьці ніводнага кандыдата.**

Гаворачы пра наступствы пасьлявыбарчай сітуацыі, Зянон Пазьняк як адмоўны бок адзначыў, што ў гэтых умовах будзе памяншацца вядомасьць БНФ, Фронт будзе прыцягваць менш увагі, мы зможам даносіць да насельніцтва менш інфармацыі, чакаецца памяншэньне ўплыву БНФ на насельніцтва.

Са станоўчага ў гэтай сітуацыі Зянон Пазьняк адзначыў, што са зьнікненьнем Фронту з парламанту зьнікае і вобраз ворага, уся адказнасьць кладзецца на камуністычнага прэзідэнта і камуністычны парламант.

Нельга не адзначыць узросшы інтэлектуальны ўзровень Сойму. Дапрыкладу, на працягу 10 хвілін на трыбуну падымаліся тры дактары навук: доктар біялогіі Ружа Ганчарова, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, доктар медычных навук Алесь Астроўскі.

Сойм разгледзеў «Палажэньне пра Маладзёжную Арганізацыю Партыі БНФ», прыняў вызначэньне аб справаздачнай кампаніі ў Беларускім Народным Фроньце. Так вызначана для ўсіх арганізацыяў БНФ у сьнежні правесьці справаздачныя сходы суполак, у студзені - раённыя канферэнцыі, у лютым - рэгіянальныя канферэнцыі, у сакавіку адбудзецца Нацыянальная канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». У ходзе кампаніі павінна адбыцца рэвізія складу і дзейнасьць усіх арганізацый БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ.

**Станіслаў СУДНІК.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ
### Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

У выніку 2-га туру выбараў сфармаваны Вярхоўны Савет краіны. Гэта сьведчыць пра паступовае аслабленьне ўплыву прэзідэнцкай прапаганды на масавую сьвядомасьць нашага грамадзтва. Сама наяўнасьць Вярхоўнага Савету можа паслужыць перашкодай на шляху спаўзаньня Беларусі да дыктатуры.

Большасьць у новым Вярхоўным Савеце складаюць прадстаўнікі наменклатуры і камуністычных сілаў. Гэта прадвызначае далейшыя цяжкасьці ў руху Беларусі па шляху эканамічных і палітычных рэформаў і далучэньня яе да цывілізаванага сусьветнага супольніцтва. Але непазьбежная барацьба паміж левым прамаскоўскім прэзідэнтам, з аднаго боку, і левай парламанцкай бальшынёй, з другога боку, стварае для незалежніцкіх дэмакратычных сілаў спрыяльную магчымасьць вярнуць сабе палітычную ініцыятыву.

БНФ пакуль што не здабыў дэпутацкіх мандатаў у новым Вярхоўным Савеце. Аднак прадстаўнікі Народнага Фронту, насуперак шалёнай антыфронтаўскай і антыбеларускай прапагандзе, па шэрагу акругах здабылі лепшыя вынікі, чым на веснавых выбарах. Гэта сьведчыць пра пэўны пералом у стаўленьні да Народнага Фронту і ідэяў, якія ён вызнае. Многім кандыдатам ад БНФ да перамогі не хапіла яўкі літаральна некалькіх дзесяткаў выбаршчыкаў. Пры іншай, набліжанай да эўрапейскіх узораў, сістэме галасаваньня (часткова прапарцыйныя выбары ці адсутнасьць абавязковай квоты яўкі выбаршчыкаў) тыя, хто галасаваў за Народны Фронт, мелі б сваіх дэпутатаў.

Сёньня ж узважаная і адказная пазіцыя БНФ, які саступіў некаторыя выбарчыя акругі прадстаўнікам ліберальнай дэмакратыі, паспрыяла таму, што ў новым Вярхоўным Савеце былі абраныя прадстаўнікі гэтай палітычнай сілы. І мы спадзяемся, што яны паспрабуюць узяць на сябе цяжкую і адказную місію наданьня воргану заканадаўчай улады канструктыўнай энэргіі ў правядзеньні рэформаў і будуць процістаяць спробам абмежаваць дэмакратычныя свабоды і суверэнітэт краіны.

Мы лічым мэтазгодным заклікаць усіх дэпутатаў, незалежна ад іх партыйнай прыналежнасьці і палітычных сімпатыяў, у штодзённай парламанцкай дзейнасьці адстойваць незалежнасьць Беларусі і асноўныя нацыянальна-культурныя каштоўнасьці, якія апынуліся пад пагрозай зьнішчэньня ў выніку мэтанакіраванай палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі. Гэта перш за ўсё беларуская мова, беларуская школа, беларуская культура.

БНФ усьведамляе, што ў новай сітуацыі ён застаўся асноўнай палітычнаю і грамадзкай сілай, на чыіх сьцягах - лозунгі беларускага адраджэньня, нацыянальнай сьвядомасьці, арыентацыі на спрадвечныя маральныя каштоўнасьці нашага народу. Адпаведна гэтаму Народны Фронт будзе выпрацоўваць сваю палітычную стратэгію і тактыку штодзённай дзейнасьці.

## ЧАМУ ЗНОЎ НЕ АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ?
### (НАТАТКІ МЕДЫКА)

*Ты лучше голодай, чем что попало ешь.* Амар Хаям

**У апошні час палітолагі ўсіх краін прыйшлі да высновы, што грамадзтва нагадвае жывы арганізм. Наша гарадзенскае грамадзтва таксама. У яго, як і ва ўсяго жывога, ёсьць мозг, мускулы і ўсё іншае. Калі разглядаць мозг, то патрэбна быць (барані Божа!) псіхіятрам. А вось нашу выбарчую сістэму можна параўнаць са страўна-кішэчным ворганам.**

Нагадаем, чым кармілі грамадзтва ў савецкі час? Аднолькавай стравай пад назвай «непарушны блок камуністаў і беспартыйных». І наш грамадзкі страўнік так прызвычаіўся да гэтага варыва, што нават сапсаваную ўшчэнт страву прымаў на «ура». Некаторыя нават спакушаліся на страву «сучаснае пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме» пад салодкім соусам.

Як працавала сістэма, які прадукт з гэтага атрымліваўся - вы ўсе добра ведаеце. Да гэтага часу адмыцца ад гэтага прадукту немагчыма. А, як кажуць у рэкламе, які пах! І вось, пяць гадоў таму, прапанавалі нашаму грамадзтву зусім іншыя стравы. І якія цікавыя! Камуніст, які ад сваёй партыі адмовіўся; дэмакрат, які гучна крычыць і ціха бярэ хабар; эколаг, які ня ведае, што такое Чарнобыль; бэнээфавец, які па-беларуску ні вуха, ні рыла; кадэбіст, які ўсё жыцьцё працаваў у КДБ і ўсё жыцьцё быў супраць.

Ну як тут не сапсаваць сабе страваваньне! Але грамадзтва наша праглынула і гэта. І пачаўся такі развал ва ўсіх членах, што яшчэ горш стала. Што ні возьмеш, усё ў заняпадзе.

Прапанавалі нам панацэю ад усіх хвароб. Называецца яна - прэзідэнт. Кажуць, дапаможа лепш, чым аптэка і міліцыя разам.

Глядзім - яшчэ горш стала. Зараз ужо грамадзтва разважае, выжыве яно, ці не.

А тут тэрмін падыйшоў. Зноў трэба нешта прымаць. А выбар той самы. Ну, тыя, якія ўжо прывыклі да камуністычных страваў, праглынулі і зараз. А астатняя - большасьць - кажуць: «Можа лепш галадаць?» Вось адсюль і вынікі выбараў.

Што я прапаную як медык? Па-першае, трэба добра пачысьціць страўнік. Для гэтага трэба галадаць і, прабачайце, прыняць слабіцельнае. Але гэта ўжо дае нам шаноўны прэзідэнт. Акрамя гэтага, ён яшчэ вызваў ташнату - мабыць, для лячэньня. Па-другое, трэба пільна сачыць, што нам прапануюць. І выбіраць толькі дабраякасных кандыдатаў. Асабліва сачыць за чысьцінёй рук. Іх, зразумела.

**К.СКЛІФАСОЎСКІ.**

## ХАЦЕЎ ЯК ЛЕПШ...

**Як паведаміла прэс-служба Канстытуцыйнага суда, 11 сьнежня гэты суд прызнаў неадпавядаючымі Канстытуцыі ўказы прэзідэнта аб ліквідацыі раённых Саветаў у гарадах і аб прыкладнай структуры мясцовых адміністрацый, якія меліся пераняць функцыі гэтых Саветаў.**

Раённыя Саветы павінны працаваць. Але зрабіць гэтага ня змогуць - выбары дэпутатаў у іх не праводзіліся.

Сваімі ўказамі А.Лукашэнка парушыў права грамадзян абіраць сваіх прадстаўнікоў і быць абранымі ў заканадаўчыя ворганы, наяўнасьць якіх замацаваная ў асноўным законе краіны. Сарваўшы выбары ў раённыя Саветы вялікіх гарадоў, у тым ліку і Горадні, прэзідэнт пакінуў гарадзкое насельніцтва без улады, асабліва, калі ўлічыць той факт, што не ўдалося абраць і гарадзкія Саветы.

Падобна на тое, што ствараючы моцную ўладу, прэзідэнт стварыў сапраўдную анархію.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## «ДАЛОЎ ЛУКАШЫЗМ»

«Не Лукашызму», «Лукашызм ня пройдзе», «Далоў Лукашызм», - такімі лозунгамі былі распісаны сьцены, платы, сьцірты будматэрыялаў у Лідзе напярэдадні выбараў. Гарадзкія ўлады займелі шмат клопату, каб пасьціраць і пазамазваць гэтыя «патрыятычныя» надпісы. Шмат аналагічных подпісаў было і на выбарчых бюлетэнях.

Выбарчыя камісіі фіксавалі бюлетэні з антылукашэнкаўскімі подпісамі ў графу «несапраўдныя».

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ГОД СТРАТЫ Ў КРАІНЕ ПАРАДОКСАЎ



**Алесь Крауцэвіч**, *гісторык-медыевіст, археолаг. Аўтар кніг: "Гарады і замкі Беларускага Панямоньня 14-18 ст.", "Гарадзенскі замак" і інш.*

**Калі адным выразам акрэсьліць тое, чым быў мінулы год для Беларусі, то яго можна назваць годам страты. Страты людзей (сьмяротнасьць перавышала нараджальнасьць), страты дабрабыту (працягваўся спад вытворчасьці), страты міжнароднага аўтарытэту (невыкананьне падпісанай дамовы аб ліквідацыі зброі і асабліва забойства амерыканскіх пілотаў на паветраным шары). Нарэшце, за мінулы год Беларусь страціла частку сваёй дзяржаўнасьці.**

У 1995 г. мы па-ранейшаму жылі ў краіне парадоксаў. Напрыклад, кожную раніцу а 6-й гадзіне прачыналіся пад матыў: «Нас аб'яднала Леніна імя, партыя к шчасьцю вядзе нас ў паход...» Другі парадокс: Беларусь - нейтральная дзяржава - выказала прэтэньзіі на сьвятовае панаваньне, уставіўшы ў свой герб зямную кулю ці інакш кажучы «глобус Беларусі». Як ні дзіўна, у нашай дзяржаве дзейнічаюць афіцыйна зарэгістраваныя палітычныя арганізацыі, якія без усялякага сумневу маюць на мэце ліквідацыю гэтай дзяржавы: ЛДП, «Белая русь», «Саюз афіцэраў», ПКБ, «Народны рух» і т.п. Самае цікавае, што дзяржаўны камітэт бясьпекі ніяк іх не прасьледуе, не разганяе і ўвогуле, вонкава ніяк не рэагуе.

Выклікае зьдзіўленьне таксама, што першая службовая асоба дзяржавы актыўна займалася разбурэньнем дзяржаўнай ідэалогіі, якая яшчэ і не пасьпела як сьлед сфармавацца. Забарона «незалежніцкіх падручнікаў» - яскравейшы таму прыклад.

Поўнай ліквідацыі дзяржавы, як ні дзіўна, успрацівіўся ўсходні сусед, да якога нашае кіраўніцтва так імкнулася далучыцца. Аказалася, Расеі ня надта дарэчы новая губерня. Ёй патрэбны хутчэй пратэктарат, паўдзяржава-марыянетка, якая пры гэтым мае голас у міжнародных арганізацыях. Расеі выгадны перманентны крызіс беларускай дзяржаўнасьці, што яна і будзе рэгулярна арганізоўваць. Другія суседнія народы (як і многія расейцы) успрымаюць Беларусь як «саўковы запаведнік» і імкнуцца ад нас адгарадзіцца. З Летувой мы ня мелі дзяржаўнай мяжы тысячу гадоў, усю нашу гісторыю. Памятаю, студэнтамі езьдзілі з Менску ў Вільню папіць кавы. Зараз туды трапіць цяжэй, чым у Кітай.

Не глытнуўшы як сьлед свабоды, Беларусь атрымала ўдар пад дых. Ганебнейшым і, больш таго, гістарычна злачынным дзеяньнем было прыгнячэньне беларускай мовы. Гэта паставіла першага прэзідэнта Беларусі ў адзін шэраг з расейскім царом Мікалаем І і графам Мураўёвым.

«Апушчэньне» беларускай мовы яшчэ болей паменшыла шанцы на захаваньне ў гістарычнай прасторы этнічнага ўтварэньня пад назовам «беларускі народ». Праз усе стагоддзі страты дзяржаўнасьці аснову гэтай этнічнай агульнасьці захоўвала сялянства, якое заўжды складала большасьць насельніцтва. Пасьля разбурэньня савецкай уладай беларускай вёскі з яе традыцыйнай сістэмай маральных каштоўнасьцяў, адзіная надзея на выжываньне палягае ў дзяржаве. Вось чаму кажу: «Няхай жыве кожны грамадзянін-незалежнік, будзь ён хоць хадэкам, хоць камуністам».

Найвялікшай маральнай каштоўнасьцю года (і самай дэфіцытнай) было пачуцьцё ўласнай годнасьці ў службоўцаў і журналістаў. Тут прыклад мужчынам паказала слабая жанчына - намесьнік міністра адукацыі і навукі Тацьцяна Галко, якая выступіла ў «справе падручнікаў», ведаючы, што яе чакае пасьля гэтага.

Беларусы перасталі сьпяваць (п'яныя гарланьні ня ў лік), натоўпы на вуліцах і ў транспарце сталі яшчэ больш шэрымі. Жыцьцярадасныя і ўсьмешлівыя твары - неверагоднае відовішча ў нашых гарадах.

У цэнтры сталіцы ўзьнікла ўстанова, якая ў мяне асабіста асацыіруецца як «ведамства страху». Мне страшна праходзіць каля будынка на вуліцы К.Маркса ў Менску, дзе я столькі гадоў спакойна хадзіў у бібліятэку, калі там было ЦК КПБ, і пазьней, пры Вярхоўным Савеце. Цяпер ужо не скароціш шлях па дарожцы каля вугла дома, усюды надпісы: «Проход возле здания воспрещен» і ты ідзеш у абход з непрыемным халадком у душы і імкнешся не рабіць рэзкіх рухаў.

На фоне стратаў нават маленькі набытак здаецца вялікай удачай і адсюль такая радасьць з нагоды абраньня новага Вярхоўнага Савету. Аднак патрыёты беларускай дзяржавы, вітаючы сам факт захаваньня парламанту, неяк забываюць абудзельнай вазе ў ім людзей, якія негатыўна ставяцца да самой ідэі беларускай дзяржаўнасьці.

Застаецца актуальным сумны жарт Уладзіміра Караткевіча пра тое, што беларусу, кабяму не занадта добра жылося, Бог вырашыў даць самае горшае ў сьвеце начальства.

Аднак чалавек можа быць шчасьлівым і ў часы самага цяжкага крызісу. Падставай для аптымізму можа быць прыслоўе: «Не бывае лёгкіх часоў». Давайце успомнім, хіба нам лёгка было дзесяць гадоў таму пры Савецкім Саюзе? Ці лічылі мы тады, што маем «лёгкі час»? Самым аптымістычным маім зьдзіўленьнем зьяўляецца тое, што Беларусь яшчэ жыве і мае ўласную дзяржаўнасьць. Нейкіх шэсьць гадоў назад у беларускую дзяржаву верыў толькі дзядзька Зянон Пазьняк і можа яшчэ некалькі чалавек. Але ж яна ёсьць! У нас ёсьць і выгоднейшае геаграфічнае становішча на перакрыжаваньні Эўропы. Як можна жыць на транзіце між Усходам і Захадам - добра давялі нашыя продкі, найперш, магілёўцы.

Жадаю мужчынам у новым годзе адчуць шчасьце стварэньня, шчасьце працы, якая прыносіць плён. Жанчынам жадаю найперш знайсьці разуменьне і падтрымку з боку мужчынаў ва ўсіх тонкасьцях іх эмацыянальнага стану і духоўнага жыцьця.

## ПРАВЯДЗЕНЬНЕ ПЕРШАЙ СЕСІІ НОВАГА ПАРЛАМАНТУ ПАД ПАГРОЗАЙ ЗРЫВУ

**15 сьнежня сьпікер парламанту 12-га скліканьня М.Грыб склікаў экстранную прэс-канферэнцыю, на якой заявіў: «Апошнім часам усё больш відавочнымі становяцца спробы пэўных сілаў сарваць арганізацыю падрыхтоўкі першай сесіі і падпарадкаваць дзейнасьць парламанту 13-га скліканьня сваёй волі. Дзейнасьць прэзідыума ВС 12-га скліканьня і яго сакратарыяту па арганізацыі першай сесіі новага парламанту практычна паралізавана».**

Мечыслаў Грыб паведаміў, што без паведамленьня па загаду прэзідэнта яго пазбавілі ўрадавай сувязі, машыны і аховы. У заяве прэс-службы ВС гаворыцца: «Дэпутатам, якія працягваюць працу на сталай аснове і займаюцца падрыхтоўкай першай сесіі, не выплочваецца зарплата, не выдзяляюцца сродкі для памнажэньня і рассылкі дакумантаў да першай сесіі нowaабраным дэпутатам, адсутнічаюць фінансавыя магчымасьці для прыёму і разьмяшчэньня іншагародніх дэпутатаў у Менску».

На думку спадара Грыба, дзеяньні прэзідэнцкай каманды робяць праблематычнымі правядзеньне першай сесіі парламанту 13-га скліканьня.

## ПЕРАДВЫБАРЧЫ БЛОК СДС ПЕРАТВАРАЕЦЦА Ў ПАРЛАМАНЦКУЮ ФРАКЦЫЮ

**15 сьнежня адбылася прэс-канферэнцыя нowaабраных дэпутатаў, членаў выбарчага блоку Сацыял-Дэмакратычнага Саюзу (СДС), на якой было паведамлена, што дэпутаты намераны аформіць перадвыбарчы блок СДС у парламанцкую фракцыю.**

У заяве прэс-службы гаворыцца, што да 12 дэпутатаў СДС далучыцца яшчэ шэраг дэпутатаў ВС. Удзельнікі прэс-канферэнцыі вызначылі асноўныя прынцыпы дзейнасьці фракцыі: дзяржаўнасьць Беларусі і каштоўнасьці сацыял-дэмакратыі, суадноснасьць рашэньняў фракцыі з рашэньнямі і дзеяньнямі партый-удзельнікаў СДС (Партыя Народнай Згоды, Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, Партыя Агульнабеларускага Адзінства і Згоды), адкрытасьць фракцыі для прадстаўнікоў іншых партый сацыял-дэмакратычнай накіраванасьці і беспартыйных дэпутатаў, незалежнасьць членаў фракцыі ад выканаўчай улады і г.д.

Старшыня ПНЗ Л.Сечка заявіў, што кандыдатура новага сьпікера фракцыяй СДС пакуль не абмяркоўвалася. На прэс-канферэнцыі была выказана незадаволенасьць заявамі прадстаўнікоў Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі аб тым, што АГП можа стаць ядром дэмакратаў у новым парламаньце.

 









# «У НАС КІРУЮЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЖАДАЮЦЬ ШЧАСЬЦЯ СВАЙМУ НАРОДУ, АЛЕ НІЧОГА НЯ ЎМЕЮЦЬ»

**16 сьнежня ў Горадні адбыўся ўстаноўчы сход абласной арганізацыі АГП. Старшынёй лібералаў Гарадзеншчыны абраная Галіна Осіпава. Аднак цэнтральнай падзеяй гэтага дня стала сустрэча Станіслава Багданкевіча з грамадзкасьцю Горадні. Фрагменты выступу С.Багданкевіча і яго адказаў на пытаньні, мы спадзяемся, будуць цікавымі чытачам «Пагоні».**

«...Каштоўнасьці Аб'яднанай грамадзкай партыі грунтуюцца на прызнаньні правоў чалавека як правоў дамінуючых. Мы будзем адстойваць суверэнітэт. У сваіх дзеяньнях зыходзім з неаспрэчнасьці замацаванага Канстытуцыяй нейтралітэту Беларусі. Галоўнай задачай бачым стварэньне такога заканадаўчага механізму, пры якім Беларусь павінна ствараць прадукцыі і паслугаў як мага больш. Мы ня супраць камуністычных ідэй. Але іх задача падзяліць, а нашая - стварыць, каб было што дзяліць.

...Хто разбурыў Саюз і эканоміку? Той, хто быў і ёсьць пры ўладзе. У іх хапіла розуму разбурыць цэнтралізаваную гаспадарку, а пабудаваць на гэтых руінах нешта сваё - не выходзіць. Кажуць, развалілі дэмакраты. Успомніце суадносіны сіл у былым Вярхоўным Савеце: 85% -камуністы, 15% - дэмакраты. Кажуць - рынак. Але рынак - гэта не базар. Гэта жорсткая маёмасная адказнасьць дэцэнтралізаваных суб'ектаў гаспадараньня. Гэта больш жорсткая адказнасьць, чым адміністрацыйная. А ў нас дагэтуль няма рынку, а ёсьць пастаўкі. Калгасу ня плацяць, а ён пастаўляе. Ня плацяць - не пастаўляй! Рынак - сістэма самарэгуляваньня. Чым менш указаў, няхай нават і такога мудрага прэзідэнта, як наш, тым лепей. Але пры гэтым павінны быць законы, судовая ўлада... Скажам, у адным з інвестфондаў ёсьць 2 жуліка - пасадзі іх. Але навошта ўсе 40 інвестфондаў зачыняць?

...Мы ня супраць дзяржаўнай уласнасьці, як нам прыпісваюць. Мы за шматуласнасьць. Але затраты пакрый з выручкі. Няблага, каб яшчэ і прыбытак быў. Плюс свабода прадпрымальніцтва і канкурэнцыі. Роля дзяржавы - толькі законы, разумныя правілы, накіраваныя на стварэньне любых працоўных месцаў.

...Адносіны да пытаньня аб зямлі асьцярожныя, узважаныя. Але ў аснове - прыватная ўласнасьць.

...Інвестыцыі. Увесь час параўноўваемся з Расеяй. Але маленькая Чэхія мае іх цяпер больш, чым Расея - 3,5 мільярда доляраў. Там кіруе Грамадзянская дэмакратычная партыя на чале з Клаусам. А хто кіруе ў нас: людзі, якія жадаюць шчасьця народу, але якія пры гэтым нічога ня ўмеюць рабіць.

Цяпер вось законы ў нас будуць пісаць старшыні калгасаў. Праўда, ёсьць і сярод іх розныя. Скажам, Валодзька з Віцебшчыны, калгас імя Суворава. Маюць 2 мільярды прыбытку. Няхай жыве такі калгас і квітнее. Але трактары яны купілі нямецкія, грузавікі - нямецкія. Таму што больш эканамічныя і таньнейшыя.

Так, нам патрэбны сяброўскія адносіны з Расеяй. Нават асобыя адносіны. Але калі выгадней купіць нямецкую машыну, то давайце купляць нямецкую. Бо акрамя сяброўства, нам трэба яшчэ і новыя тэхналогіі, новыя працоўныя месцы, добрая зарплата.

...Самай вялікай праблемай ў палітыцы бачу праблему з інфармацыяй. Адсутнічаюць магчымасьці выкласьці свае погляды публічна. Друк, тэлебачаньне і радыё зманапалізаваныя. Адсюль і другая праблема - з дэзінфармацыяй. Столькі хлусьні друкуюць і агучваюць, што жах. А частка народу даверлівая.

...У Вярхоўным Савеце буду ўздымаць пытаньне аб незаконнасьці аб'яднаньня Беларусбанка і Ашчадбанка. Але нас там меншасьць. Народ даверыў уладу іншым.

...На майскім рэферэндуме на ўсе пытаньні я адказаў «НЕ». Але я катэгарычна супраць таго, каб у першы зручны момант адразу ж аднавіць Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг. Патрэбна шмат працы па адукацыі народа.

...Нашая партыя мае і будзе мець нармальныя адносіны з Народным Фронтам. Я высока ацэньваю іх дзейнасьць, але лічу, што Народнаму Фронту неабходна пазбаўляцца пэўнага сектанцтва, перахлёстаў, катэгарычнасьці.

...Калі б я кожны раз падаваў у суд на сваіх паклёпшчыкаў, то мне здаецца, я б не вылазіў з гэтай установы. Аднак мне ёсьць чым заняцца і бяз гэтага.

...Будзем жорстка стаяць на прынцыпах законнасьці. Мы не прыхільнікі канфліктаў... Спадзяюся, што нашымі саюзьнікамі ў гэтай справе будуць сацыял-дэмакраты і аграрыі. Лічу, што большая частка камуністаў стаіць на такіх самых пазіцыях.

...Курс долара, яго кошт вызначаецца попытам і прапановай на рыку, а не ў кабінетах. Лічу, што курс нашага рубля завышаны. Унутраныя цэны ў гэтым годзе вырасьлі больш, чым утрая, а зьнешнія засталіся на тым жа ўзроўні. Гэта самаедзтва. Гэта на грані злачынства.

У прэзідэнта ёсьць яшчэ магчымасьць трымаць курс. Аднак валютныя рэзервы ўпалі толькі за апошні месяц ў тры разы. Мне здаецца, што «чорнага аўторка» у нас ня будзе. Будзе хутчэй за ўсё чорны тыдзень, альбо чорны месяц.

Японія, Італія дэвальвуюць сваю валюту ў імя экспарту, а мы, выходзіць, такія багатыя? Ганарымся, што ў нас ужо заробкі па 80 $. Але ж чалавек, атрымаўшы зарплату, ідзе не ў абменны пункт, а ў краму. А там новыя цэны.

... У адстаўку я пайшоў па дзьвюх прычынах. Па-першае, Лукашэнка не выконвае сваёй шырока прадэклараванай праграмы. Па-другое, мне не давалі працаваць у рамках закону.

Нацбанк па закону самастойны. А мне даводзілася выконваць «указіўкі». Банк ня можа быць банкам адной асобы, няхай нават геніяльнай, якая больш за астатніх любіць свой народ.

...Спадзяюся, што да імпічмэнту ня дойдзе. Спадзяюся, што прэзідэнт зробіць высновы з сваіх ранейшых паводзін.

Хацеў бы працаваць у фінансава-крэдытнай камісіі. Ужо з праекта бюджэту на будучы год бачу, што там ёсьць над чым працаваць. Скажам, на ахову прэзідэнта запланавана патраціць 28 мільярдаў рублёў, а на дзейнасьць ураду - 20 мільярдаў.

Я не кажу ўжо пра ведамства Ціцянкова. Кантрольную палату, якая хацела яго праверыць, нават на парог не пусьцілі. Буду зноў ставіць гэтае пытаньне. Усё павінна быць пад кантролем.

...Ня ведаю, хто стане старшынёй Вярхоўнага Савету. Гэта, хутчэй за ўсё, будзе кампрамісная фігура.

...Замест таго, каб зьвяртацца да выбарчых блокаў Расеі, няхай бы наш прэзідэнт удзяляў больш увагі свайму народу. Напрыклад, заклікаў бы прыйсьці на выбары.

...Адзіная мытная прастора з Расеяй мае плюсы ў частцы гандлю з Расеяй. Але акрамя таго, мае і мінусы - у частцы гандлю з трэцімі краінамі.

...Шокавая тэрапія, напрыклад, у Польшчы пацягнула за сабою зьніжэньне аб'ёму валавога прадукту на 28%. Цяпер там рост, а сярэдні паляк мае 350 доляраў заробку. У нас жа і шоку быццам бы не было, а ідзем з мінусам 70%. Не кажу ўжо пра нашыя заробкі і ўзровень жыцьця. Самым цяжкім будзе першая палова наступнага году. Мы праядаем абаротны капітал. Толькі ў гэтым годзе грашовая маса павялічылася ў 2,3 раза, а валавы прадукт зьменшыўся на 15%.

Спадзяюся, што пакуль ва ўрадзе ёсьць Чыгір, ён ня дасьць уключыць друкарскі станок, які будзе вырабляць грошы.

Спадзяюся, што замест гэтага будзем памяншаць падаткі. Але папярэджваю, будзем зьніжаць і расходы. Тым больш, ёсьць на чым эканоміць: кантралёры, чынавенства, войска, міліцыя».

# НАВАГРАДАК АЗАДАЧАНЫ

Навагрaдзкія ўлады вызначаюцца імклівасьцю і дакладнасьцю выкананьня ўказаў «бацькі». Тут першымі па ўсёй Гарадзенскай вобласьці ўвялі палітдні, першымі стварылі інфармацыйныя групы. Але апошні ўказ азадачыў і іх. Навагрaдак атрымаў распараджэньне Адміністрацыі Прэзідэнта мець у кожным класным пакоі лукашэнкаўскі герб і сьцяг. Толькі ў агульнаадукацыйнай сістэме Навагрaдка 220-230 класных пакояў. Адзін сьцяг каштуе 150-200 тысяч рублёў, самы танны герб - 300 тысяч (камерсанты бяруць па 650).

Такім чынам, па сьціплых падліках з улікам фае, кабінетаў, настаўніцкіх, трэба каля 300 мільёнаў рублёў. Для параўнаньня: месячная аплата ўсіх працаўнікоў адукацыі горада складае 500 мільёнаў. Так што не дзівіцеся, настаўнікі старажытнага Навагрaдка, што вам затрымліваюць зарплату. Пазірайце на сьцягі і гярбы ды згадвайце смак канюшыны.

# КАПІТАЛІСТ НЕ ПЕРАПЛОЦІЦЬ

На сумесным галандзка-беларускім прадпрыемстве «Эран-Ліда» працуе каля 70 чалавек. Уся сыравіна паступае з Галандыі, уся прадукцыя ідзе ў ЗША, Англію, Бельгію. Абсталяваньне германскае, якасьць -эўрапейская. Сярэдні заробак швачак - каля 450 тысяч рублёў у месяц. У Галандыі адзін беспрацоўны атрымлівае ў месяц 800 доляраў дапамогі. Кажучы мякка, не пераплочваюць галандцы беларускім жанчынам.

# ЛЯЧЫЦЬ БУДУЦЬ ТОЛЬКІ Ў БУДНІЯ ДНІ

Сёньня запазычанасьць Івейскага тэрытарыяльна-медычнага аб'яднаньня розным дапаможным арганізацыям і ўстановам складае 1 мільярд 400 тысяч рублёў. У сувязі з гэтым у медыцыне Івейшчыны чакаюцца вялікія зьмены. Стацыянары ўчастковых бальніц будуць працаваць па зьменнаму графіку: месяц адзін, месяц іншы. Незразумела толькі як быць з хворым, які за месяц не далячыўся. Ехаць у другі канец раёну, ці як? Уводзіцца платны масаж і ультра-гукавое дасьледаваньне. І апошняя навіна. На выхадныя і сьвяточныя дні хворых будуць адпускаць дадому.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

# СТАРЭЮЦЬ НЯ ТОЛЬКІ ЛЮДЗІ

У 1990 годзе гаспадаркі Астравецкага раёну набылі 73 трактары, 41 грузавы аўтамабіль, 14 збожжаўборачных камбайнаў і 63 культыватары. За 1994-95 гады куплена некалькі адзінак прычапнога сельгасінвентару і ажно адзін трактар, дый той ні за кім не замацоўваюць, бо баяцца, што давядзецца прадаць, каб выплаціць заробак калгасьнікам.

У цэлым па раёну на сёньняшні дзень падлягае сьпісаньню 25 працэнтаў трактарнага парку, 32 працэнты грузавых аўтамабіляў і збожжаўборачных камбайнаў, 48 працэнтаў сеялак і 38 працэнтаў плугоў.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

# БАЦЬКА «ПАКЛАПАЦІЎСЯ» ПРА СТУДЭНТАЎ

**У Адміністрацыі Прэзідэнта прынята вызначэньне адабраць на сваю карысьць будынак філалагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Універсітэту.**

Нагадаем, што філфак знаходзіцца на вуліцы Карла Маркса, у непасрэднай блізкасьці да асноўных карпусоў універсітэту і універсітэцкіх інтэрнатаў, а таксама да дзяржаўнай бібліятэкі. Узамен студэнтам прапануецца малапрыстасаваны будынак ва Уруччы, адзін толькі праязны білет туды зьесьць у беднага студэнта палову стыпендыі, ня кажучы пра іншыя страты і нязручнасьці.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

# ЯКІ Ж НОВЫ ГОД БЯЗ ЕЛАЧКІ?!

Калі Вы задалі сабе гэтае пытаньне, то не сьпяшайцеся ехаць у бліжэйшы лес - можаце «нарвацца» на непрыемнасьці.

Сёлета гарадзенскія лясьнікі рашуча настроіліся весьці барацьбу з «навагоднімі браканьерамі». Супрацоўнікі гарадзенскага лясгасу зьявіліся на пастах ДАІ на дарогах, якія вядуць у абласны цэнтр. Узмоцнена ахоўваюцца ў гэтыя дні і бліжэйшыя да Горадні лесапасадкі. Злоўленым за руку аматарам дармовага прыйдзецца выкласьці з кішэні немалыя грошы: за ссечаную елку трэба будзе заплаціць 48 тысячаў, а таксама штраф у памеры ад адной да трох мінімальных зарплат (60-180 тыс.)

Для таго, каб гарадзенцы ў гэтым годзе ня мелі праблемаў з набыцьцём елак, лясгас з учарашняга дня распачаў продаж гэтых дрэўцаў на елачных кірмашах, у людных месцах. Калі ў мінулым годзе было прададзена каля 11 тысячаў зялёных прыгажунь, то ў гэтым мяркуецца рэалізаваць 19 тысячаў. Кошт елкі вышынёй да 1 метра - 15 тысячаў, ад метра да трох - 25 тысячаў, вышэй трох - 31 тысяча. На кірмашах можна набыць і яловыя лапкі, якія каштуюць значна таньней. Так што не сячыце мужыкі, не сячыце!

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

# МІСІЯНЕРЫ РЫМА-КАТАЛІЦКАГА ІНСТЫТУТУ Ў ГОРАДНІ

**16 сьнежня 1995 года ў Горадні а 19-ай гадзіне ў Бэрнардынскім касьцёле адбылася імша. Правіў яе кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч. Пасьля заканчэньня службы выпускнікам інстытута вышэйшай духоўнай рэлігійнай культуры 1995 года выпуска панам біскупам былі ўручаны дыпломы. Бланкі дыпломаў - на некалькіх мовах, у тым ліку на беларускай і польскай. Выпускнікі гэтага году - гэта сьвецкія асобы рознага ўзросту, якія з цягам часу будуць працаваць катэхетамі.**

Пасьля атрыманьня дыпломаў, выпускнікі ды госьці былі запрошаныя ў залу духоўнай семінарыі, дзе і адсьвяткавалася гэтая ўрачыстасьць. Было і ламаньне аплаткаў, і зычэньні адно аднаму ўсялякіх дабротаў з нагоды Раства Хрыстова і Новага Году.

**Галіна ПЛАЎСКАЯ.**

# БАЛЬШАВІЗМ І ПАДАТКІ

**Бальшавізм і ўласнасьць - несумяшчальныя. Там дзе верх брала прыватная ўласнасьць, а ўласнасьць толькі тады і ўласнасьць, калі яна прыватная, там зьнікаў бальшавізм. Там, дзе верх браў бальшавізм, ён імкнуўся зьнішчыць уласнасьць. Бальшавізм змагаўся з прыватнай уласнасьцю двума спосабамі: палітычна-тэрарыстычным і эканамічным. Пра палітычна-тэрарыстычныя падходы напісана шмат. Мы зьлёгку кранёмся эканамічных метадаў. Яны былі даволі разнастайныя, але разгледзім асноўныя: падаткі і цэны. Што датычыць Усходняй Беларусі, то яна амаль не спазнала эканамічных метадаў. Там разгром прыватнага сектара ішоў у асноўным шляхам палітычнага тэрарызму. Падаткавы прэс, які некаторы час прымяняўся супраць аднаасобнікаў, што не хацелі мірыцца з калгасамі, паўсюдна і даволі хутка пачаў замяняцца раскулачваньнем, высылкай, турмой, а то і расстрэлам.**

У Заходняй Беларусі перыяд эканамічнага ўдушэньня ўласьніка быў больш працяглы і доўжыўся з 1944 года па 1949-50 гады. Для разуменьня таго, як гэта рабілася, прывядзем некаторыя нормы падаткаабкладаньня. У 1946 годзе яны складалі: збожжавых - 90 кг з гектара, бульбы - 150 кг, сена - 20 кг. Далей болей. Былі ўведзены нормы на мяса, малако, масла, шкуры, нават сьвіную поўсьць. Былі абкладзены падаткамі кожнае пладовае дрэва, кожны вулей. Дзяржава плаціла грошы за здадзеную прадукцыю, але вельмі малыя. Кілаграм бульбы ішоў па 4 капейкі, аўсу па 7,5 капейкі. Адвакат жа на адну крымінальную справу каштаваў 300 рублёў. Да гэтага часу жыве прымаўка: «Адпаў, як яйкі ад прадпадатку». Справа ў тым, што на падаткі трэба было здаваць і яйкі. Але з упакоўкай, захоўваньнем і транспарціроўкай у бальшавікоў заўсёды было дрэнна. У іх, як пісаў незабыўны Кандрат Крапіва, «і жалеза ўсыхалася, і соль мышы елі». Што тут казаць пра такі далікатны прадукт, як яйкі. І то патаўкуць, то памарозяць, то яны пратухнуць, пакуль пройдуць усе інстанцыі да прылаўку. Некалькі гадоў спатрэбілася, аднак, каб зразумець марнасьць яйкавага падатку і адмяніць яго.

У перыяд «разьвітога сацыялізму», калі ў людзей ужо адабралі ўсё, што было магчыма адабраць, з падаткамі палягчала. Асноўны цяжар лёг на плечы заводаў, калгасаў і іншых суб'ектаў гаспадараньня.

Але вось разьвіты сацыялізм пераходзіць у рынкавы і бальшавіцкія ўладары Беларусі зноў згадалі пра падаткі. У неймаверна хуткі час колькасьць падаткаў была даведзена да абсурднага ліку. Сёньня беларускі падаткаплацельшчык плаціць каля 28 розных падаткаў, ня лічачы дадатковых выплат, збораў і інш. Пры гэтым, падаткі ўстанаўлівае хто хоча і як хоча. То прэзідэнт ашчасьлівіць, то міністр спадобіцца, а то і старшыня сельсавету ўвядзе падатак за прагон каровы пад яго вокнамі. Пры гэтым, калі дастаткова проста разабрацца, адкуль падаткі паступаюць, то практычна немагчыма зразумець, куды яны дзяюцца. Не дапаможа тут і раздутая звыш усялякай меры падаткавая інсьпекцыя.

Год назад Лідзкая гарадзкая падаткавая інсьпекцыя мела штат у 1,5 дзесятка чалавек і мясьцілася ў двух пакойчыках. Сёлета тут ужо 117 супрацоўнікаў, і займае інсьпекцыя амаль цэлы паверх гарвыканкаму. Як зграя галодных ваўкоў, кідаецца кожны дзень гэтая арава на кірмашы, на бабак з цыгарэтамі і семкамі, на камерцыйныя кіёскі. І кожны павінен нешта ўрваць, бо нават гэтым цэрбэрам рынкавага сацыялізму «бацька» плоціць ня надта шмат, тым самым даючы свабоду для падаткавай творчасьці. І магу зазначыць, што ў Лідзе ўжо выпрацавана такса, колькі і за якое парушэньне трэба даць хабару, каб пазьбегнуць штрафу і цеганіны па інстанцыях. І, даводжу да вашага ведама, даюць. Сярэдні ўзровень такога хабару сёньня каля 50 зялёных, але апетыт прыходзіць « во время еды», і стаўка будзе расьці.

Такім чынам, той падаткавы прэс, які душыць сёньня беларускую эканоміку - гэта заканамерная праява бальшавізму, яго чарговы паход супраць уласьніка. Чым толькі ён скончыцца?

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

 





## MEMORIA

# ЁН РАТАВАЎ НАШЫЯ ДУШЫ

**Шэсьць гадоў назад перастала біцца сэрца ды супакоілася мяцежная душа легендарнага чалавека - Андрэя Дзьмітрыевіча Сахарава. З аднаго боку, Андрэй Дзьмітрыевіч - член Акадэміі навук СССР (1953 г.), тройчы герой сацыялістычнай працы, шматразовы лаўрэат сталінскай ды ленінскіх прэміяў, бацька савецкай тэрмаядзернай (вадароднай) бомбы, сусьветна вядомы фізік-тэарэтык. З другога боку, Сахараў - «агент міжнароднага сіянізму», «здраднік радзімы», які замахнуўся на карэнныя ўстоі ў сусьвеце вялікай сацыялістычнай дзяржавы. За жалезным занавесам у Сахарава імідж іншы: вядомы савецкі дысідэнт, вялікі гуманіст, бескампрамісны змагар за правы чалавека, адзін з заснавальнікаў і дырэктароў фонда «За выжываньне і разьвіцьцё чалавецтва», актывіст»Міжнароднай амністыі» у яе намаганьнях за адмену сьмяротнай казьні, першы сярод грамадзян СССР лаўрэат Нобелеўскай прэміі міра (1975 г.) Ён жа аўтар гіпотэзы аб канвергенцыі сацыялістычнай і капіталістычнай грамадзкіх сістэм як адзінага шляху прагрэсу чалавечай цывілізацыі і ўратаваньня яе ад тэрмаядзернай катастрофы.**

На жаль, прыходзіцца і дагэтуль разьвейваць міф, найбольш агідны для постаці Сахарава. Я маю на ўвазе прышчэпленае саўковай большасьці жыхароў СССР уяўленьне аб Сахараве як махровым сіяністе з празрыстымі намёкамі на яго яўрэйства. Наогул кажучы, гэта толькі адбітак



больш грунтоўнай акалічнасьці: «інтэрнацыяналізм» СССР атрымаў у спадчыну ад царскай Расеі антысемітызм і зрабіў яго важнай часткай сваёй ідэалогіі. У Савецкім Саюзе гэта вядомыя кампаніі барацьбы з касмапалітамі, апафеозам якой сталі забойствы яўрэйскіх дзеячоў культуры ды працэс над крамлёўскімі ўрачамі-забойцамі. Пункт 5 анкеты ў аддзеле кадраў быў бадай што ня менш важным, чым шосты артыкул Канстытуцыі СССР.

Дык хто ж на самой справе гэты «сіяніст» Сахараў? Яго прадзед Мікалай Іванавіч быў праваслаўным сьвятаром, дзед Іван Мікалаевіч -адвакатам, а бацька Дзьмітры Іванавіч - школьным выкладчыкам фізікі. Першая жонка самога Андрэя Дзьмітрыевіча - Клаўдзія Аляксееўна Віхірава - была хімікам-тэхнолагам (памерла ад рака ў 1969 г.). З другой жонкай - Аленай Георгіеўнай Боннэр - Андрэй Дзьмітрыевіч пазнаёміўся ў 1971 годзе. Боннэр мае медыцынскую адукацыю і, між іншым, зьяўляецца дачкою вядомага супрацоўніка Камінтэрна Георгія Аліханава.

«Сіяніст» Сахараў на ўвесь голас пратэставаў супраць жорсткасьці пры асадзе ізраільцянамі палестынскага лагера Тэль-Заатар, супраць страўліваньня паміж сабою арабаў, арабаў і курдаў, арабаў ды ізраільцян. Сахараў першы сярод грамадзян СССР выступіў супраць «інтэрнацыянальнай місіі» савецкіх войскаў у Аўганістане. Справядлівасьць пазіцыі Андрэя Дзьмітрыевіча больш яскрава відаць сёньня, калі раздуты «інтэрнацыяналістамі» пажар грамадзянскай вайны перакінуўся з Аўганістана на былы савецкі Таджыкістан і Чачню.

Для беларускіх саўкоў «агент міжнароднага сіянізму» Сахараў, на жаль, такі ж злодзей, як і другі савецкі лаўрэат Нобелеўскай прэміі міра «агент ЦРУ» Гарбачоў. Першы пачаў капаць яму пад СССР, другі СССР зьнішчыў.

А вось як ацэньвае Сахарава-фізіка ў прадстаўленьні на навуковы сьвет фізічнага інстытута імя П.Н.Лебедзява лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіцы 1958 г. акадэмік Ігар Тамм: «Не может быть сомнений в том, что А.Д.Сахаров заслуживает не только ученой степени доктора физических наук, но и избрания в Академию наук СССР. А.Д.Сахаров является одним из самых крупных физиков нашей страны». Гэта было напісана ў 1953 годзе.

У навуцы Сахараў прайшоў шлях ад ваенных і энэргетычных праблем да вывучэньня фізічнай сутнасьці ўзьнікненьня і эвалюцыі нашай метагалактыкі. Па магутнасьці інтэлекту Андрэя Дзьмітрыевіча можна параўнаць з Рэзерфордам. Але жыцьцёвы лёс гэтых тытанаў дыяметральна супрацьлеглы.

Рэзерфорд ня страціў у навуцы амаль ніводнага году. Ягоны штурм глыбінных асноў структуры матэрыі зьмяняўся то асадаю, то абходнымі манеўрамі, але сама навуковая эпапея ніколі не спынялася. Яе абарвала толькі нечаканая сьмерць сэра Эрнэста. Праўда, аднойчы (1915 г.) Рэзерфорда зацягнулі ў ваенна-тэхнічныя распрацоўкі пад патранажам першага лорда адміралцейства Чэрчыля. Аднак Рэзерфорд хутка ўцёк у сваю вельмі сьціплую лабараторыю. «Нельга адначасова служыць і Мінэрве, і Мамоне» - вось рэзюмэ Рэзерфорда да гэтага эпізода сваёй біяграфіі.

У Андрэя Дзьмітрыевіча ўсё склалася інакш. Ён трапіў у ваенна-тэхнічную шарашку адразу пасьля універсітэту. Затым некалькі гадоў акадэмічнай навуковай працы, але ў 1948 годзе Сахараў зноў прыцягнуты да ваенна-тэхнічнай справы, якой аддаў цалкам два дзесяцігоддзі. Ён стварыў ядзерную зброю раней, чым Эдвард Тэллер у ЗША. У адрозьненьне ад уранавай бомбы Берыі-Курчатава, вадародная бомба Сахарава была арыгінальнай (вучоны не карыстаўся шпіёнскімі шпаргалкамі, здабытымі за акіянам).

Калі ж джын выйшаў з бутэлькі, Андрэй Дзьмітрыевіч хутка зразумеў, што яго ашукалі. СССР дамагаўся не стратэгічнай раўнавагі, а наадварот, шматразовай перавагі ў ядзернай зброі над Захадам. Сутыкненьні з ваеннымі чынамі і самім Хрушчовым далі марны вынік -толькі пагадненьне аб забароне выпрабаваньняў ядзернай зброі ў трох асяроддзях. Супермілітарызацыя пажырала ўсе рэсурсы краіны. Засільле ВПК і КДБ вяло чалавецтва да тэрмаядзернай катастрофы. І Сахараў стаў дысідэнтам. Ён ратаваў нашыя душы.

Андрэй Дзьмітрыевіч неаднаразова падкрэсьліваў, што ў СССР «инакомыслие» аўтаматычна становіцца «свободомыслием». Уся бяда ў тым, што ў імперыі хлусьні «свободомыслие» вяло да кампаніі маральнага і фізічнага зьнішчэньня дысідэнта. У выніку ўсё астатняе жыцьцё дысідэнта Сахарава паглынула барацьба за выжываньне, як асабістае, так і ўсёй Чалавечай цывілізацыі. У гады татальнага прэсінга супраць Сахарава раздаўся толькі адзін мужны голас пратэсту. Цытую ненадрукаваны зварот пісьменьніка Вайновіча ў газету «Известия» (студзень 1980 г.): «Позвольте через вашу газету выразить моё глубокое отвращение ко всем учреждениям и трудовым коллективам, а также отдельным товарищам, включая передовиков производства, художников слова, мастеров сцены, героев социалистицеского труда, академиков, лауреатов и депутатов, которые уже приняли или ещё примут участие в травле лучшего человека нашей страны - Андрея Дмитриевича Сахарова».

Ну, а як жа калегі, акадэмікі? У той час, калі адзін з найбольш таленавітых савецкіх фізікаў у галіне мікра- і макраматэрыі працаваў як фізік толькі ўрыўкамі, яны, цёпла ўладкаваўшыся ў Маскве, спакойна пісалі свае працы па ядзернай фізіцы і касмалогіі, выкарыстоўваючы ідэі Сахарава. А Сахараў у гэты час вёў няроўны бой з «искусствоведами в штатском» у г.Горкім... Яны падпісвалі адкрытыя лісты, «письмо сорока» (1973), потым «письмо семидесяти трёх» (1975). Там стаялі і прозьвішчы прэзідэнтаў акадэміі - Келдыша, Аляксандрава. Апошняму беларусы павінны асабліва быць удзячны за яго намаганьні ўтаіць сапраўдны памер Чарнобыльскай катастрофы. Агідна, што некаторыя акадэмікі-падпісанты ў 1989 годзе былі ня супраць «присоединить свой голос скорби» у афіцыйным некралозе Сахараву.

Аднак і сярод акадэмікаў прагучаў адзін голас сумленьня. Цытую ліст да Брэжнева ад 4 сьнежня 1981 года:

*«Глубокоуважаемый Леонид Ильич!*

*Я очень старый человек, и жизнь научила меня, что великодушные поступки никогда не забываются. Сберегите Сахарова. Да, у него большие недостатки, трудный характер, но он великий учёный нашей страны.*

*С уважением П.Л.Капица»*

Брэжнеў прачытаў ліст у той жа дзень., Аднак шабаш ведзьмаў працягваўся. Віск «послушного большинства» суправаджаў Сахарава да апошніх дзён. Дастаткова ўспомніць паседжаньні гарбачоўскага Вярхоўнага Савету.

На фоне шматлікіх прарываў Сахарава да мікрафона сесіі гарбачоўскага Вярхоўнага Савету і настойлівых спробаў уключыць пункт аб адмене шостага артыкула Канстытуцыі ў павестку зьезда, сьмерць Андрэя Дзьмітрыевіча аказалася такой нечаканай... Хаваць яго прыйшла, без перабольшаньня, ўся Масква. Як адзначыў Станіслаў Кандрашоў, у СССР гэта было трэцяе грамадзянскае пахаваньне пасьля пахаваньня Твардоўскага і Высоцкага. Усе астатнія пахаваньні былі або казённымі, або прыватнымі.

«Прости нас, Андрей Дмитриевич!» - прасілі аратары і транспаранты на жалобным мітынгу ў Лужніках. На дакументальных здымках бачым жалезабетонныя постаці Гарбачова і Рыжкова, побач - поўны несуцяшальнага смутку і гора твар Яўгена Еўтушэнкі... Гэта былі жарсьці па Андрэю, вялікаму сыну свайго народу і нашага века, нашага агульнага сусьвету.

Лёс Сахарава велічны і трагічны, шэкспіраўскага маштабу. Пісаць пра яго мне, шараговаму абывацелю, - хуліганства. Але ж камусьці трэба... Лёс Сахарава асабліва балюча ўспрымаецца пасьля яго сьмерці, калі зграя несумленных выскачкаў стала прыкрывацца яго імем. Гэтае сьвятое імя палошчуць і сёньня. Небарака Андрэй Сахараў нават трапіў у рэкламны ролік Жырыноўскага. Такой стала Расея пасьля Сахарава. Але ж яшчэ жыве і другая Расея, ватрая сваіх трох Андрэяў: Платонава, Таркоўскага, Сахарава. За Уралам яшчэ памятаюць Васіля Шукшына ды Георгія Буркова. Яшчэ б'ецца ў Сібіры сэрца Віктара Астаф'ева. Яшчэ змагаецца ў Расеі за правы чалавека сябра Сахарава па дысідэнцтву, наш братка-беларус па паходжаньню, Сяргей Кавалёў.

Шостыя ўгодкі сьмерці Андрэя Сахарава засталі нашу гаротную Беларусь у вельмі небясьпечны час. Рэспубліка пад вядомым кіраўніцтвам нясецца на Усход. Мне ўспамінаецца палутарка з газагенератарнымі печкамі, што драпала на ўсход 23 чэрвеня 1941 года. Неслася з чадам, хістаючыся ад кювета да кювета. Тады ўцякалі ад немца, а цяпер... А цяпер ад Эўропы. Бо там памірыліся, папрасілі адзін у другога прабачэньня. Наш жа «усенародна абраны» памірыўся хіба што толькі з «известным Адольфом Гитлером», і пасьля таго фюрэра стаў бадай самым ваяўнічым на Эўразійскім кантыненьце.

Нам - і Расеі, і Беларусі - сёньня, як ніколі, патрэбен Сахараў, ці такі, як ён. Вось у гэтым мы абавязкова павінны быць адзінымі.

**Г.К.**

---

*Міхась Зуй*

# МАЯ АЎТАБІЯГРАФІЯ

(Заканчэньне, пачатак у N 46)

Праз тры дні НКУС арганізавала аблаву на мяне, але тут яны ня мелі посьпеху. Дзесяць дзён сыпаў сьнег, а я сядзеў пад елкай і змагаўся за сваё існаваньне. Пасьля дзесяці дзён, з фальшывымі дакумантамі, сеў на цягнік і паехаў да майго сябра, які займаў высокі пост у адміністрацыі. Падчас нямецкай акупацыі яго брат быў у партызанах. На адным ложку праспаў з ім паўтара месяца. За гэчы час спаткаў некаторых блізкіх суседзяў, якія, нягледзячы, што належалі да камуністычнай партыі, абяцалі ў патрэбе абараніць мяне перад НКУС.

За гэты час зрабіў сабе другія дакуманты, зьмяніўшы прозьвішча, і пераехаў у Еліна Здруй, каля чэскай мяжы на ферму да майго сябры Рабізы. Я чакаў тэлеграмы ад прыяцеля са Шчэціна, які абяцаў залагодзіць на «чорна» пераход польска-нямецкай мяжы. У канцы чэрвеня (1948 г.) атрымаў тэлеграму: «Прыязжай». І 28 чэрвеня позна ўвечары паляк-праваднік, камандзір Арміі Краёвай, і я перайшлі мяжу. На трэці дзень, перамагаючы перашкоды, дабраўся да амерыканскага сектара ў Берліне, дзе прабыў каля двух з паловай месяцаў. Атрымаў ад сяброў БНП Маеўскага і Ул.Сенькі білет на самалёт у лагер Ватэнштэт - ангельская зона, дзе яны жылі. Алякун уцекачоў - паляк, ангельскі падданы - даведаўся, што я праваслаўны беларус і не дазволіў мне жыць у лагеры Ватэнштэт, а скіраваў да нямецкіх уцекачоў з Усходняй Нямеччыны. Нягледзячы на гэта, я жыў разам з сябрамі ў лагеры Ватэнштэт. Тут спаткаў сяброў БНП: Хведара Ільяшэвіча, Ул.Сеньку, Міхася Маеўскага і Аўгена Занкавіча. Тут мы рабілі нарады да прапановы ангельскім уладам адносна барацьбы з камунізмам. За час побыту ў лагеры (сем месяцаў) арганізаваў беларускія пастаноўкі, прымаў актыўны ўдзел у грамадзкай працы.

Пасьля размовы з ангельскім генералам разьведкі, згодна яго прапановы, параплавам прыплыў у Аўстралію (9 кастрычніка 1949 года). Паколькі маё прозьвішча і другія дадзеныя былі не сапраўднымі і ў маіх паперах, пастанавіў жыць у Аўстраліі пад уласным імем. Калі я аб'явіў афіцэру бясьпекі, што маё сапраўднае імя ёсьць іншае, чым пададзена ў дакумантах, ён затрымаў мяне ў лагеры Банагіла на шэсьць месяцаў. Палічыўшы, што я - «ваенны злачынец», пачаў рабіць даведкі аб маім жыцьці і дзейнасьці на Бацькаўчшыне. Пасьля шасьці месяцаў. афіцэр бясьпекі паклікаў мяне да сябе і кажа: «Ад дня нараджэньня (мы праверылі) усю вашу дзейнасьць. Падазрэньне было памылковае, на вас ніякіх цёмных плям няма. Можаце ехаць на працу, якая вам падабаецца». За гэты час навязаў сувязь з беларусамі, раскіданымі па ўсіх краінах сьвету. Першую працу дастаў у горадзе Альбуры на ліманаднай фабрыцы.

25-га сакавіка 1950 году сп. Ул.Клуніцкі******** арганізоўвае сьвяткаваньне Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка 1918 г., і адначасна засноўвае Беларускае аб'яднаньне ў Новай Паўднёвай Валіі. Еду ў г.Сіднэй і прымаю ўдзел у сьвяткаваньні. Мяне выбіраюць у сябры Управы БА у НПБ.

Варочаюся на працу ў Альбуры, а праз пару месяцаў, у сувязі з патрэбай працаваць у Беларускім Аб'яднаньні ў НП Валіі, пераязджаю ў Сіднэй. У Лістападзе 1950 года паўстае непаразуменьне Ул.Клуніцкага з сябрамі Управы БА. Выбіраюць мяне старшынёй Аб'яднаньня і па сёньняшні дзень, бяз зьмены, стаю на гэтым пасту. У 1951 годзе дамаўляюся з сябрамі Беларускага Клубу ў Мельбурне аб злучэньні нашых арганізацыяў у адну для больш эфектыўнай грамадзкай працы.

Сябры Бел.Клубу пераймяноўваюць Клуб на Беларускае Аб'яднаньне ў Вікторыі. Робім зьезд Мельбурн-Сіднэй і абіраем Галоўную Управу Беларускага Аб'яднаньня ў Аўстраліі - БАуА. Лёс судзіў мне быць старшынёй і цягнуць далей цяжкую, няўдзячную працу і па сёньняшні дзень. Ад пачатку заснаваньня Аб'яднаньня была заснаваная і Рэдкалегія, якая на працягу 10-ці год выдавала часопіс «Новае жыцьцё», навязвала сувязь з Аўстралійскімі ўрадавымі палітыкамі. Лучылася да спаўпрацы з арганізацыямі іншых нацыянальнасьцяў. Супольна арганізоўвалі мітынгі, дэманстрацыйныя паходы па вуліцах Сіднэя і на ўзаем запрашалі да сябе дэлегатаў на нацыянальныя ўрачыстасьці. Беларускае Аб'яднаньне арганізоўвае мешаны хор, які выступаў на нацыянальных сьвяткаваньнях і міжнацыянальных канцэртах, рабілі публічныя беларускія забавы і кожны год нацыянальныя сьвяткаваньні: Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка 1918 г., Другі Усебеларускі Кангрэс, Слуцкае Паўстаньне, таксама сяброўскія вечарыны, прысьвечаныя заслужаным беларускім патрыётам, як Я.Купалу, Я.Коласу, М.Багдановічу і другім. А таксама ставіліся беларускія пастаноўкі на нацыянальных сьвяткаваньнях.

13 сьнежня 1949 года атрымоўваю рангу надлейтэнанта. За грамадзкую працу 1 лютага 1952 года Прэзідэнт БЦРады Р.Астроўскі надае мне (рангу) капітана. Начальнік Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху 2 сьнежня 1952 года прызначае мяне інсьпектарам БВРуху ў Аўстраліі. 20 студзеня 1951-га атрымоўваю прызначэньне сябра БЦР, а 10 кастрычніка 1952 г. Прэзідэнт БЦРады прызначае мяне Старшынёй Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. На ўрачыстасьці 25-га Сакавіка 1962 года беларускае грамадзтва ўручае мне прэзент (падарунак). 13 лістапада 1978 года атрымоўваю ад Прэзідэнта (БЦР) рангу Генерала.

У 1965 годзе арганізоўваю высылку беларускіх дэлегатаў на міжнародныя палітычныя канферэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай лігі (ВКАЛ) і апелюю да беларусаў сьвету дапамагчы фінансава пакрываць расходы, зьвязаныя з удзелам беларускіх дэлегатаў у рэпрэзентацыі Беларусі на канферэнцыях ВАКЛ.

Дэлегаты высылаліся з Аўстраліі, Нямеччыны, Амерыкі і Англіі. Абавязак за пакрыцьцё коштаў рэпрэзентацыі Беларусі ляжаў на мне. Гэта каштавала мне многа клопату і нерваў, ды ўласных выдаткаў. Не шкадую. Вынік уложанай працы аказаўся задавальняючым. Ужо ў 1971 годзе Беларусь, амаль нязнаную на Захадзе, Свабодалюбівыя Народы Сьвету афіцыйна прызналі за раўнапраўную сабе сяброўку, і прынятай Рэзалюцыяй на 5-ай Канферэнцыі ВАКЛ 24-га ліпеня 1971 года зацьвярджае ёй поўнае права на дзяржаўную незалежнасьць, і адначасна прыраклі ўсебаковую дапамогу Беларускаму Народу ў барацьбе за незалежнасьць...

Але невылечная хвароба палажыла мяне ў шпіталь і спыніла ўсю маю грамадзкую дзейнасьць...

Жыве Беларусь!!!

**Аўстралія, Сіднэй. Кастрычнік 1994 год.**

******** - Клуніцкі Уладзімір - арганізатар першай беларускай арганізацыі ў Аўстрліі. Першы старшыня беларускага Аб'яднаньня ў Аўстраліі. Сябра Беларускай Народнай Грамады і рэдактар грамадоўскага часопіса «Да Перамогі». Памёр 27 жніўня 1974 года ў Сіднэі.

